*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 42 (581)** **30 КАСТРЫЧНІКА 2002 г.**

# 120 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа



О край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безграпічных
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю-рукой
Вы раськіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі!
Вы пуцінаю нярoўнай
Бяжыцё ў далячыню,
У той бок Вяльлі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну.
Край мой родны! дзе-ж у сьвеце
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так,
поруч зь сьмецьцем,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе-б так вобруку з галечай
Расьцьвітаў багацьця цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?...

Скрозь вяночкі дрэў вясёла
Над мястэчкам ці сялом
Цэрквы, стромкія касьцёлы
Вежы ўзносяць к небясом.
А званіцы перад сьвятам
У касьцёл, царкву завуць,
Каб "прад Богам і прад братам
Віны ўсе свае пачуць".
Родны край! У Божа імя,
Ў чэсьць касьцёлаў і царквоў
Паміж дзеткамі тваімі
Многа легла камянёў;
Многа выйшла трасяніны –
Меч, агонь зьнішчалі край:
З двух бакоў "айцы" дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
І цяпер над намі, брацьце,
Яшчэ ў сіле той раздор –
І папоўскае закляцьце,
І ксяндзоўскі нагавор.
Брацьце мае. Беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў,
Мусіць, сам Бог для спакусы
Гэты край наш адзначаў.
Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,

А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесьці на зьдзек,
Каб у віры тэй ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,
Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.
Тут на нашых станавішчах
Пальшча білася й Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква.
І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў,
І Маскаль тут самачынна
Гвалт над намі утварыў,
Будаваў вастрог народу
І барбарскім капылом
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс з калом,
І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку зь ярынамі
Талачыў і дратаваў.
Родны край! Ты разарваны,
Паабапал ад мяжы
Лях ліхі, Маскаль паганы
Моцна сьцягваюць гужы,
Каб з хаўтурнае майстэрні
Беларусу сшыць халат,
Ды ні пан, ні хам ня верне
Плынь гісторыі назад!

Эх, чаго нам ня прыйшлося,
Брацьце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, няпрызнаных,
Неаплаканых нікім;
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам пустым!
Толькі-ж, брацьце,
край ня зьгінуў,
Не пагнуўся яго стан
І із нас душы ня выняў
Ні Маскаль, ні польскі пан!
Дык хіба-ж мы праў ня маем.
Сілы, шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

*З паэмы "Сымон-музыка".*

## ВІНШУЕМ З ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ

**Сакратарыят ТБМ віншуе сяброў арганізацыі, якія нарадзіліся ў лістападзе:**

Аляксандра Баранава
Дзмітрыя Базвалава
Таццяну Відрук
Анатоля Вярцінскага
Вольгу Гівоіну
Алега Гнедчыка
Яна Грыба
Святлану Давыдзьку
Людмілу Дзіцэвіч
Валянціну Домаш
Алену Досіну
Генадзя Кажамякіна
Анатоля Канапельку
Дзмітрыя Кацяшова
Алену Клірэеву
Паўлюка Мацюкевіча
Міхася Мельніка
Леакадзію Мілаш
Мілану Міхалевіч
Леанарду Мухіну
Валерыя Пашкевіча
Аляксандра Пугачэўскага
Аркадзя Скуратовіча
Аляксея Фралова
Галіну Шчурко
Лідзію Шчурко
Святлану Шыманчык
Эрнеста Ялугіна
Аляксея Яскевіча

## Інаўгурацыя - 2002

Пачатку новага навучальнага года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры была прысвечана цырымонія "Інаўгурацыя-2002", якая адбылася ў Цэнтральным Доме афіцэраў. У тэатралізаванай частцы пад назвай "Ад прадзедаў нам засталася спадчына" ўспаміналі асветнікаў Беларусі Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Міколу Гусоўскага, Сімяёна Полацкага.

Пасля пралогу асабліва ўрачыста прагучалі віншаванні рэктара ўніверсітэта Ядвігі Грыгаровіч і іншых выкладчыкаў першакурснікам, якіх урачыста пасвяцілі ў студэнты.

**На здымку:** мантыю прафесара атрымлівае рэктар універсітэта Ядвіга Грыгаровіч.

**Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.**



## Не – рэпрэсіўным законам!

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

*Прозвішча, імя, імя па бацьку* ____________________
*Год нараджэння* ____________________
*Адрас* ____________________
*Асабісты подпіс* ____________________

***Заўвага:*** *Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газеты.*





# Лірызм і духоўны свет герояў у трылогіі Я.Коласа "На ростанях"

Проза Коласа – гэта свайго роду першаадкрыццё і незнаёмага дасюль мацерыка – Палесся, Прынямоння, голасу душы чалавека, беларуса ў акіяне людской нематы, сацыяльнай неўладкаванасці і агульнага ўбоства жыцця. Адраджаць чалавека ў беларусе – было асноўнай і адраджэнцкай, і жыццёвай, і мастацкай праграмай самога пісьменніка, марай і сэнсам яго жыцця. Кіруючыся гэтай высакароднай задачай, аўтар на першы план ставіць трагедыю і боль душы чалавека, шчыра заклапочанага лёсам сваёй Бацькаўшчыны. І невыпадкова ў цэнтры ўвагі мастака ў трылогіі – лёс маладога інтэлігента, інтэлігента ў першапакаленні, выхадца з сялянскага асяроддзя, які пакутуе ад сваёй "нязгоды" з родным краем.

Гэтая "нязгода" – духоўная, лірычная ўзрушанасць, рэфлексія, інтраспекцыя, - якая ў папярэднікаў толькі абрамляла дзеянне, у Коласа становіцца важным сэнсавыяўленчым ядром, базісам, на якім часта трымаецца сюжэтна-кампазіцыйная канва. Менавіта ў гэтым нам бачыцца асаблівая вобразастваральная мадэль Коласа-псіхолага, якая дапамагае пранікнуць у глыбіню душы і заканамерную аснову развіцця характару.

Героі празаіка найперш раскрываюцца праз дынаміку пачуцця і думкі. Яго інтэлігенты – гэта людзі неспакойнага, пошукавага, актыўнага характару; яны, з аднаго боку, прадстаўнікі таго пакалення, якому адкрылася магчымасць далучыцца да культурных набыткаў чалавецтва, а з другога – моцна звязаны з глыбінна народным, сваім, родным.

Дыялектыцы душы герояў, бесперапыннаму развіццю характару ён падпарадкуе "каляровую мову" палешукоў, сялян, унутраныя маналогі, драматычныя дыялогі, апісанне знешнасці, якая змяняецца пад уплывам душэўных перажыванняў. Трылогія пазбаўлена лакіроўкі і спрошчанасці ў асэнсаванні гісторыі. Знітавана своеасаблівасцю і індывідуальнасцю падыходу да духоўнай праблемы "народ і інтэлігенцыя". Як і ў навэлах, тут адчуваецца пранікнёная, даверлівая, шчырая інтанацыя, значная ступень "унутранага" біяграфізму, лірычна-асабістай перажытасці матэрыялу. Жыццё, Палессе паўстаюць па ўспрыманні Лабановіча з адценнем не толькі рамантычнага светаадчування, але і з пачуццём незабыўнага душэўнага болю. Перад намі – вобраз беларускага інтэлігента старэйшай генерацыі, асобы, надзвычай чуйнай да дысгармоніі і дыскамфортнасці быцця, схільнага да рэфлексіі. У трылогіі даволі моцнае прадчуванне той ломкі, якую мы назіраем у інтэлігенцкім асяродку ўсяго 20 ст.

Акрамя таго, зварот Коласа да даследавання ўнутранага свету чалавека быў своеасаблівым водгукам на поступ сацыялагізатарскіх тэндэнцый у развіцці літаратуры. Ён хацеў перш за ўсё сцвердзіць самакаштоўнасць асобы чалавека, значнасць яго духоўных перажыванняў. А дзеля гэтага патрэбна было паказаць багацце, складанасць ўнутранага свету чалавека. Адсюль і зварот празаіка да выяўлення псіхалогіі і свядомасці герояў. Колас скрупулёзна вывучае самыя дробныя рухі, змены ў адчуваннях сваіх прсанажаў, апісвае працэс ўзаемадзеяння знешняга свету, навакольнай рэчаіснасці і ўнутранага. Празаік спрабуе перадаць не толькі ўстойлівыя, выразна акрэсленыя пачуцці, ён звяртаецца да сферы падсвядомых уяўленняў. Даследуе працэс зараджэння разнастайных настрояў, жаданняў.

Пісьменнік прайшоў эвалюцыю ад жанру апавядання да жанру аповесці, трылогіі ў кірунку паглыблення псіхалагізму, павышэння ўвагі да ўнутранага жыцця чалавека, да дыялектыкі душы герояў. Менавіта там, дзе "ўнутранае" і "знешняе" ў працэсах дзеяння чалавека знаходзіла трывалую і гарманічную сувязь, звычайнае мастацкае слова найбольш дакладна і поўна адбівала ў сабе праўду характару і праўду жыццёвых акалічнасцяў. Такі падыход Колас пастаянна распрацоўваў у сваёй прозе, паступова ўмацоўваючы псіхалагічны спосаб раскрыцця характару. Гэта быў надзейны шлях пазбаўлення ад знешне падзейнага апісальніцтва, ад простага адлюстравання да паглыбленага аналізу ўнутранага свету чалавека.

"Як жыць?" – гэтае пытанне Колас вырашаў усё сваё жыццё, усё шырэй выводзячы яго на плошчу, на абмеркаванне ў "гушчы народа". Ён, бадай, упершыню ў беларускай прозе, як Талстой у рускай, геніяльна адкрыў перад чытачом сваю душу і душу народа.

Паслядоўна, з твора ў твор, ад апавядання – да аповесці (трылогіі) Я. Колас праводзіць думку аб тым, што сялянскае асяроддзе – асноўны захавальнік духоўных каштоўнасцяў народа. Вечная ісціна – сэнс жыцця ў стваральнай працы – з'яўляецца гарантам высокай маральнасці селяніна, што жыве па боскіх законах, адраджае і захоўвае сваё сумленне.

У трылогіі вобразы "балотнай вады" ў параўнанні з вобразамі сялян вельмі шмат губляюць ў сэнсе маральнасці, духоўнай цэласнасці. Служэнне ілжывым ідэалам (Саханюк, Бляўскі, Шырокі, Дулеба, Бацяноўскі і інш.) спусташае іхнія душы.

Аўтар падае ў творы разгорнутую карціну псіхалагічнага стану Лабановіча, які "захварэў душою", паказаў, як змагаюцца ў гэтай душы самыя розныя пачуцці, як прагне яна ачышчэння. Ён шукае выйсця, яму хочацца паспавядацца, падзяліцца з кімсьці (хоць з той жа бабкай Мар'яй) сваім болем, сумненнямі, расчараваннем. На прыкладзе героя Колас фактычна раскрыў трагічную залежнасць чалавека ад грамадска-палітычных умоў часу, калі ён вымушаны быў заглушаць у сабе ўсё лепшае, чым надзяліла яго прырода, бацькі. Гэты вобраз, без сумнення, значнае творчае дасягненне празаіка, сведчанне далейшага росту яго псіхалагічнага майстэрства. Праз свядомасць Лабановіча праходзяць асноўныя грамадскія падзеі. Надзвычай яскрава майстэрства пісьменніка і выяўляецца там, дзе ён раскрывае яго псіхалагічны стан, складаную гаму пачуццяў. Асабліва тонкая інструментоўка заўважаецца тады, калі гаворыцца пра ўзвышаныя чалавечыя пачуцці, бо неасцярожна ўжытае слова, як вядома, парушае лірычную танальнасць, стварае неадпаведнасць паміж тым, што вынікае з сюжэтнага дзеяння і што атрымліваецца на самай справе: "Застаючыся на адзіноце з самім сабою, Лабановіч часта думаў пра Ядвісю. Ён нават размаўляў з ёю ў думках. І гэта размова была такая простая, шчырая, бо ішла ад сэрца! Ядвіся так міла і крыху хітравата пазірала на яго і смяялася. Яму самому рабілася так добра і ціха на душы ад гэтае размовы. Ён чуў, што нешта прыемнае ўліваецца ў душу і грэе яго сэрца". (1, с.94-95)



Якуб Колас у грыбах

Замілаванне і ўсмешка (часам горкая) нярэдка пераважаюць у поглядзе аўтара на сваіх герояў, а лірыка-узнёслая танальнасць складае аснову эмацыянальнага фону яго прозы. Зразумела, што аўтар часта паэтызуе вёску. Аднак творчыя пабуджэнні і ідэйна-эстэтычныя вынікі некалькі іншыя. Для яго герояў, як і для самага Коласа, вёска – тая прастора, што фармуе з дзяцінства ўнутраны свет, а пазней надае чалавеку ўпэўненасць у жыцці. Менавіта ў вёсцы, у яе побытавай і лірычна-эмацыянальнай атмасферы знаходзяцца пачуццёва-псіхалагічныя першакрыніцы пазнання ўсіх навакольных з'яў – да сусветна-касмічных маштабаў уключна.

Прырода – вельмі істотная частка таго жыцця, якім жыве чалавек на вёсцы. Яна, як жывая істота, у яе чалавечыя асаблівасці. Больш таго, нярэдка ў Коласа прырода роўная чалавеку па сіле і значэнні, а магчыма і вышэй яго. Селянін, асабліва палешук, у трылогіі проста жыве на фоне прыроды, не толькі "ўключаны" ў яе жыццё. Прырода спараджае духоўную аўру для чалавека, Лабановіча ў прыватнасці, накіроўвае яго ўнутраныя інтарэсы, дае адчуванне паўнаты і велічы ўласнага існавання ў сувязі з вечным рухам сусвету. Малы космас Прынямоння, Палесся ў празаіка нярэдка звязваецца з сусветам, і прырода – своеасаблівы "сувязны" паміж запаветнай роднай зямлёй і бяздонным і бясконцым небам, калі адно пераходзіць у другое – канкрэтная жывасць мясцовай з'явы і невымерная веліч сусвету.

У трылогіі заўважаецца нават бачнасць самапаўтарэння, і яна звязана з аўтабіяграфізмам – пісьменнік шчодра выкарыстоўвае тут свой жыццёвы і духоўны досвед, і ў гэтым, зразумела, няма нічога благога.

Разгледзім важнае ў структуры 1-й аповесці каханне Лабановіча і Ядвісі. Яно па-рознаму трактавалася і трактуецца ў коласазнаўстве. Але, на нашу думку, яно часам выглядае трохі сентыментальным, недастаткова аналітычным, псіхалагічным, хоць, зразумела, трэба ўлічваць асаблівы характар гераіні, яе пастаянную ўзрушанасць, то лірычную эмацыянальнасць, то адкрыты драматызм, звязаны з нешчаслівым лёсам яе маці, над якой бязлітасна здзекваўся бацька. Ядвіся часцей за ўсё ўспрымае навакольнае менавіта пачуццёва, а не аналітычна, гэта яшчэ больш узмацнялася першым каханнем, рэўнасцю і расчараваннасцю. Усё ж у цэлым Колас імкнуўся да псіхалагічнай адпаведнасці апавядання душэўнаму стану сваёй гераіні – і ў цэлым гэта яму ўдалося. Зразумела, што пачуцці Лабановіча аўтару апісваць было прасцей.

Галоўны герой – чалавек складанага інтэлекту і багацейшага ўнутранага свету, ён добра разумее жыццё, спачувае чалавечаму болю, - адсюль яго ўнутраная драма, як, дарэчы, і драма самога аўтара. Ён нярэдка настолькі апрабіруе кожны крок Лабановіча, настолькі зліваецца з ім, што словы Андрэя ўспрымаем, як лірычную споведзь самога пісьменніка.

Гуманістычная проза Коласа настроена на якасцях яго асабістага "я", якое заўсёды прысутнічае ў творах, філасофскіх разважаннях. Часцей жа асоба аўтара прысутнічае ў нечым няўлоўным, што стварае настраёвасць і танальнасць; у празрыста-радаснай інтанацыі (калі героі шчаслівыя), у драматычным напружанні (калі герояў не абыходзяць жыццёвыя выпрабаванні), у гуманістычнай падсветцы асобных фактаў і з'яў.

Выбар менавіта такога героя. Як Лабановіч, дазволіў пісьменніку з аднаго назіральнага пункта і з блізкай адлегласці – а гэтым самым выразна і дакладна – абмаляваць найважнейшыя гістарычныя з'явы і працэсы тае эпохі, паказаць узаемасувязь, узаемадзеянне і пераплятэнне самых, здавалася б, супярэчлівых працэсаў.

Для Коласа кожны чалавек – складаны і непаўторны свет, і ў паказе "дыялектыкі" душы аўтар дасягае арганічнай еднасці падзейнага і псіхалагічнага пачаткаў, "дзеянняў" і "рэфлексій" персанажаў. Дзякуючы стылёвай псіхалагізацыі апавядальнай плыні ўжо яго паэмы служылі для беларускіх раманістаў прыкладам больш поўнага ахопу жыцця чалавека ў сувязях з грамадствам. Раману трэба было павялічваць не памеры, а ёмістасць і глыбіню апавядання.

Трылогія зрабіла гэты крок па шляху асваення чалавечага пазнання і асэнсавання душэўнага свету думак і пачуццяў героя.

Колас паказвае, што менавіта інтэлігенцыя, калі яна блізка да сэрца ўспрымае паўсядзённыя клопаты народа, яго грамадскія і нацыянальныя інтарэсы, не можа, не мае маральнага права заставацца ў баку ад іх заглыбленага асэнсавання. Адносіны чалавека да вытлумачэння прычын і наогул да пытанняў філасофскага зместу з'яўляюцца найважнейшым вызначальным крытэрыем яго духоўных магчымасцяў і дамінантным сюжэтным лейтматывам трылогіі. Пад моцны рацыянальна-філасофскі кантроль часта падпадае тут нават такая сфера чалавечага жыцця, як каханне. Лабановіч увесь час сам вывучае сваё каханне, аналізуе, трымае яго пад кантролем розуму.

Абнаўленчы працэс у душы героя нярэдка выступае ў форме агульных і не заўсёды акрэсленых псіхалагічных памкненняў, умяшанне аўтарскага голасу ў саму ацэнку гэтага працэсу таксама вельмі асцярожнае. Тут трэба быць вельмі ўважлівым да кожнага слова, мастацкай драбніцы, дэталі, каб убачыць ці прадвызначыць рэальную глыбіню псіхалагічных паваротаў і трансфармацый характару.

На першы погляд, проза Коласа заземлена-побытавая. Аднак у гэтай атмасферы на кароценькае імгненне зыркай іскрынкай выяўляе сябе тая простая жыццёвая філасофія, якую мы часта называем здаровым сэнсам, што ва ўсе часы і ў любых абставінах утрымлівае чалавека ад духоўнага самаразбурэння, дапамагае трымацца высокіх маральных каштоўнасцяў і беспамылкова адрозніваць праўду ад маны. дабро ад зла.

У паўсядзённых клопатах герой Коласа досыць пэўна раскрывае сябе і як чалавек грамадскі, сацыяльны, хоць такая асаблівасць сацыяльнасці звычайна знаходзіцца дзесьці ў глыбіні яго натуры, і нам нярэдка трэба нешта дамалёўваць, дапоўніць і выйсці на асацыятыўна-апасродкаваны шлях пазнання псіхікі чалавека, каб лаканізм аўтарскага падтэксту "загаварыў" паўней і глыбей акрэсліўся.

І на першым этапе творчасці, і пазней аўтар выяўляе сябе як удумлівы псіхолаг-аналітык. У яго прозе на першым месцы пастаноўкі і вырашэння любой праблемы – побытавай і быційнай, вялікай і малой, інтымнай і грамадскай дамінуе, як правіла, ідэя чалавечай духоўнасці. Нават там, дзе галоўны сюжэтны вузел звязаны з паказам чалавека ўнутрана абмежаванага, інертнага. Пры тым аўтар звычайна адхіляе думку, што валявы націск на псіхіку чалавека здольны стаць уплывовай і вырашальнай сілай у духоўным фармаванні асобы, хоць іншы раз самому чалавеку, можа, і вельмі хацелася б дачакацца ад кагосьці загадаў.





Побытавую плынь Колас умела пераключае ў план маральна-філасофскага роздуму аб духоўным выхаванні чалавека, паказваючы, што галоўная, найважнейшая роля ў вырашэнні гэтай праблемы самому чалавеку і належыць. А пабочная сіла, як ўяўляецца пісьменніку, толькі тады пазітыўна ўплывае на яго псіхіку, нясе ў сабе гуманістычную энергію, закранае жывыя струны чалавечай душы і знаходзіць у ёй свой водгук.

Нельга не адзначыць шырыню мастацкага задумення празаіка, смеласць задум, арганічнасць таленту і яго самавыяўлення, глыбокую ўвагу да духоўнага жыцця чалавека, да спасціжэння яго псіхалагічнага стану. Колас адразу ж пачаў уздымаць новыя пласты жыцця беларускага грамадства, першы пачаў распрацоўваць тэму інтэлігенцыі, яе дачыненні і сувязі з народам. Тонкая чуйнасць празаіка да новых павеваў дазволіла яму паглыбіцца ў канкрэтнае вырашэнне надзённых задач, прыступіць да ідэйна-мастацкага асэнсавання духоўнага аблічча інтэлігента.

Вобраз галоўнага героя неардынарны. Лабановіч увесь у пошуках праўды для сваёй зямлі, у руху да адраджэння сапраўднай нацыянальнай годнасці.

Глыбока гуманістычная трылогія – не толькі і не столькі пра мінулае – пафас яе скіраваны на тое, каб не было ў жыцці такіх абставін, што калечылі чалавека не толькі фізічна, але і духоўна, каб не было недаверу, падазронасці і даносаў, каб чалавек, інтэлігент стаў чалавекам, інтэлігентам, вярнуўся да сапраўднай сваёй сутнасці. Так, сцвярджае аўтар, чалавек рана ці позна павінен за ўсё, зробленае ім у жыцці, або адказваць, плаціць, або мець маральную, духоўную ўзнагароду.

У трылогіі Колас неадольна вяртаўся да роднага і блізкага, якое асвечвалася высокай паэзіяй, грэла лагодным цяплом, цешыла спакутаваную душу светлымі ўспамінамі. Вось чаму ў творы з унутранай душэўнай прасветленасцю апісаны беларускія абрадавыя святы. Перад намі – самабытны пісьменнік, які ўмеў праз жывое і трапнае беларускае слова паказаць душу чалавека, душу народа.

Яго творчасць якраз і была настойлівым, штодзённым пошукам шляхоў да сэрца і розуму працоўнага беларуса. У народзе бачыў Колас асноватворчыя пачаткі жыцця, верыў у яго духоўную сілу і невычэрпныя здольнасці. Святая вера ў працоўнага чалавека, стваральніка матэрыяльных і духоўных багаццяў, натхняла мастака слова ў яго творчай дзейнасці.

Пісьменнік перакапальна даводзіць думку пра тое, што нацыянальна-вызваленчы рух узнік у самім жыцці, з'яўляецца гістарычнай заканамернасцю, ён абумоўлены ўнутранымі патрэбамі духоўнага развіцця народа, нацыі. Тое, што шырокія народныя масы абудзіліся да актыўнай грамадскай, нацыянальна-культурнай дзейнасці, было пацвярджэннем іх багатых унутраных магчымасцяў, якія ва ўмовах несправядлівага грамадска-палітычнага ладу не маглі знайсці ажыццяўлення.

Колас з'едліва высмеяў абразлівыя закіды публіцыстаў рэакцыйнага друку наконт быццам бы нізкага інтэлектуальнага ўзроўню беларуса, ён рашуча адвёў іх паклёпныя выдумкі. У трылогіі ён імкнецца раскрыць сапраўдныя прычыны цемнаты і адсталасці селяніна. Яны – у несправядлівым грамадскім ладзе, у сацыяльным і нацыянальным уціску народных мас. А яшчэ – у пасіўнай, грамадскай абыякавасці, якая пануе сярод працоўнага люду. Царская адміністрацыя прыкладвала немала намаганняў, каб вытруціць з душы і свядомасці беларуса ўяўленне пра яго нацыянальную прыналежнасць.

Перадавы і "спустошаны" Лабановіч – гэта па сутнасці маштабны сімвал, гэта напоўненае трывогай мастацкае слова, звернутае да кожнага з нас, да нашага розуму і пачуццяў, да нашай грамадзянскай, палітычнай, нацыянальнай свядомасці. Гэта і была праява пошуку шляхоў да "абнаўлення" прозы, якая павінна была стаць водгуллем народнага жыцця, сумленнем народа.

У Коласа арыгінальная канцэпцыя чалавека, свой уласны погляд на яго. Празаік у самім жыцці адкрывае цікавы і змястоўны, вельмі арыгінальны і моцны чалавечы характар. А ў такім разе паўтарыць каго б там ні было, ці Гогаля, ці Горкага, напрыклад, проста немагчыма. Тым больш, калі ў пісьменніка ёсць не толькі арыгінальнае бачанне рэчаіснасці, але і свой адметны стыль.

Лабановіч, Тукала, Андросава - душэўна шчодрыя і прыгожыя, па-грамадску прынцыповыя, непахісныя, яны менавіта з кагорты тых людзей, якія выраслі, сфармаваліся на глебе народнай маралі, духоўных каштоўнасцяў простага люду.

Як і ў апавяданнях, так і ў трылогіі Колас дасягае значнага псіхалагічнага эфекту, перадаючы ўнутраны стан гэтых людзей, зазіраючы ў таямніцу іхняй душы. Найпершую ўвагу пісьменнік звяртае на дыялог, бо хто-хто, а вясковцы найбольш поўна раскрываюцца ў час гаворкі, асабліва калі нечым узрушаныя.

"Здзіўленая Аўгеня спынілася на парозе.

- А хіба ж сёння не свята? – спытала яна.

- Якое свята? – сярдзіта зірнуў на яе дзед Міколка.

- Вось, скажэце, мае мілыя: як бы хто туману напусціў – прамовіла Аўгеня, збітая з тропу – Адны святкуюць, другія кажуць, што свята няма." (1,с.50)

Перажыванні Лабановіча – нярэдка душэўны стан тых, хто з цягам часу расчараваўся ў сваіх пачуццях, шукае хоць нейкае выйсце з палону бездухоўнасці і маральнай незапатрабаванасці. Не заўсёды, праўда, гэта ўдаецца зрабіць паспяхова і своечасова, але душа прагне абнаўлення. Лабановічам робяцца крокі, пры тым не заўсёды прадуманыя і апраўданыя, каб разарваць путы мяшчанскай заспакоенасці, паспрабаваць знайсці новае прыстанішча (успомнім хоць бы яго жаданне "збегчы" з Цельшына).

Пісьменнік як бы нагадвае: людзі, умейце радавацца прыгажосці, адкрываць яе ў штодзённасці. Дарыце паболей адзін аднаму радасці, узаемаразумення, бо пройдзе час і пашкадуеце, што нешта рабілі не так, у чымсьці схібілі, пайшлі насуперак сумленню: "Увесь панылы настрой, пад уплывам якога быў нядаўна Лабановіч, развеяўся, як ранішні туман перад гарачым летнім днём. Ён адчуў прыліў бадзёрасці, новай сілы, жаданне змагацца за сваё месца ў жыцці і за ўсіх добрых людзей, пакрыўджаных нядоляй і рознаю злыбедаю, што загароджвае ім дарогі. Чаго ж сумаваць? На каго спадзявацца?... Заставайцеся ж тут шчаслівыя, мае мілыя вербачкі, і ты, неўгамонная рэчка! У ругім месцы сустрэнемся з такімі ж дарагімі, як і вы". (1, с. 539-540)

Адна з важных тэм трылогіі – фармаванне сацыяльна актыўнага чалавека, нялёгкія пошукі ім шляхоў у будучыню. Пісьменніка радавала духоўнае абнаўленне інтэлігента, які пачынаў усведамляць сябе гаспадаром жыцця. Проза Я. Коласа ўлівалася ў шырокую плынь беларускай літаратуры, уносячы ў яе сваю тэматычную і стылёвую адметнасць, лірычную, эмацыянальна-ўзвышаную і разам з тым рэалістычна-праўдзівую танальнасць.

Скрупулёзна даследуе мастак характар Лабановіча, выяўляе вытокі працавітасці, вынослівасці, чалавечнасці. Іх бачыць празаік у кроўнай сувязі з роднай зямлёй, на якой нарадзіўся і вырас герой, у сялянскай працы, якая загартавала яго душу. У многія падзеі, карціны жыцця (яны падаюцца ў рэтраспектыўным плане) убачаны з пазіцый самога героя. Лабановіч не проста ўспамінае, а прапускае праз сваё сэрца, як бы наноў перажывае кожны момант прыгаданага жыцця. Асаблівую ўвагу Колас фіксуе на самавыказваннях, самаацэнках героя, якія гучаць ў маналогах. Яны дапамагаюць спасцігнуць характар Лабановіча, яго духоўныя якасці, акрамя таго, нясуць багатую інфармацыю пра час.

Вызначым ідэйна-маральную дынаміку эстэтычных пошукаў пісьменніка – аўтар з вострым пачуццём "маральнай" праўды, павышанай увагі да ўнутранага свету простага чалавека, інтэлігента- "мужыцкага сына" імкнецца зразумець схаваную ў бытавой плыні складаную субстанцыю беларускага дня, нацыянальнага жыцця.

*К. Карнялюк.*

# Ствараецца "Англійска-беларускі слоўнік"

З месяц таму назад Беларускі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт наведаў Пітар Джон Мэё, дацэнт Шэфілдскага універсітэта, кафедры рускай і славянскіх моваў, дзе ён выкладаў рускую мову і Параўнальную граматыку славянскіх моваў. А прыехаў Пітар у Менск дзеля каардынацыі працы над 50 000-м "Англійска-беларускім слоўнікам". Чаму менавіта над англійска-беларускім?

Пітар Джон Мэё наведаў Менск упершыню ў 1974 годзе з групай студэнтаў і, што называецца, прыкіпеў да Беларусі. У 1976 годзе ён выдаў "Граматыку беларускай мовы" на англійскай мове. У 1991 годзе Пітар Джон Мэё ўдзельнічаў у працы Міжнароднага кангрэсу беларусістаў.

Пайшоўшы на пенсію Пітар ушчыльную заняўся беларускай тэматыкай. Разам з выкладчыкамі Лінгвістычнага універсітэта ён працуе над 50 000-м слоўнікам. Пітар вельмі прыстойна валодае беларускай мовай, прынамсі, лепш за многіх беларусаў. Як ні дзіўна Пітар размаўляе па-беларуску без усялякага акцэнту - вынік доўгай працы са славянскімі мовамі і, мабыць, любові да Беларусі.



**На здымку: Тамара Суша, Пітар Джон Мэё, Наташа Брэйва у лабараторыі універсітэта.**

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Ці былі на Беларусі вікінгі?

Ці верыце вы, што Менск бліжэйшы да Стакгольма, чымся паўночны шведскі горад Гёліварэ? Зірніце на карту – гэта папраўдзе так. А як мы суседзі – дык час знаёміцца і хадзіць адно да аднаго ў госці. Мабыць, пачухаўшы патыліцы, пра гэта сцямілі дырэктары нацыянальных музеяў Балтыйскіх краін, у тым ліку і Беларусі, калі сабраліся ў траўні ў Рызе і арганізавалі асацыяцыю "Нацыянальныя гістарычныя музеі ад Балтыйскага да Чорнага мораў".

І першаю канкрэтнаю справай асацыяцыі стала выстава, што адкрылася 18 кастрычніка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Называецца экспазіцыя "Вікінгі на Усходзе", і зладжаная яна, 14 музеямі нашае краіны супольна з Дзяржаўным у гістарычным музеем Швецыі. Матэрыялы выставы расказваюць пра даўнія сувязі нашых продкаў са скандынавамі, а дакладней – з варагамі, сляды якіх на нашых землях фіксуюцца ў археалагічных і пісьмовых помніках самога канца 1-га тысячагоддзя. Гэтыя ўнікальныя артэфакты, як называюць свае знаходкі археолагі, можна ўбачыць на выставе "Вікінгі на Усходзе". Аднак не варта думаць, што ўсё выстаўленае, привезенае сюды з-за мора. Зусім не. Для балцкага свету, да якога належала і сучасная тэрыторыя Рэспублікі Беларусь, і для скандынаваў было ўласціва шмат супольных элементаў у рэлігіі, традыцыях, мастацтве. Гэта не толькі геаграфічная, але і этнічная блізіня германцаў і балтаў.

Можна ўспомніць, што і славутыя варажскія камяні з рунамі, дакладныя копіі якіх змешчаны ў сталічным гістарычным музеі, маюць тутэйшыя аналогіі. Для народаў поўначы Еўропы камень быў аб'ектам ушанавання, у адрозненне ад жыхароў стэпу. Таму, калі арганізаваць выставу нашых валуноў у Стакгольме, думаю, шведы не застануцца абыякавымі.

*Віктар Корбут, спецыяльна для "Нашага Слова"*



**На здымку:** выстава "Вікінгі на Усходзе" выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў.
**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

## 2 лістапада - Дзяды

# Пахавальны абрад беларусаў – складовая частка традыцыйнай нацыянальнай культуры

У сённяшні час ва ўмовах прабуджэння нацыянальнай самасвядомасці, рэабілітацыі рэлігійных пахавальных абрадаў узнікла вялікая цікаўнасць да мемарыяльнай культурнай спадчыны. Агульначалавечыя каштоўнасці адлюстроўваюцца ў нацыянальных і рэлігійных традыцыях, вытокі якіх прасочваюцца ў непаўторных гістарычных лёсах кожнага народа ці нацыянальнай групы, якая доўгі час жыве на кампактнай тэрыторыі сярод прадстаўнікоў карэннага этнасу. У той жа час захаванне традыцый непазбежна суправаджаецца іх частковай трансфармацыяй падчас запазычвання найбольш каштоўных рысаў з традыцыйнай культуры суседніх краін і народаў.

У сувязі з гэтым роля месца пахаванняў, як сведкаў мінуўшчыны, значна павялічваецца, і яны павінны мець трывалае становішча ў сістэме мемарыяльных ландшафтаў і ансамбляў.

Пахавальны абрад з'яўляецца часткай светапогляду канкрэтнага народа ці яго рэлігійнай групы, і адлюстроўвае народныя погляды на суадносіны паміж людзьмі ў грамадстве, з прыродай і з міфічным светам памерлых. Пахавальная культура, якая непасрэдна ўздзейнічае на пачуцці і думкі людзей, з'яўляецца важным фактарам іх духоўнай блізкасці. Могілкі заўжды побач з людзьмі на працягу ўсёй чалавечай гісторыі, з тых далёкіх часоў, калі чалавек пачаў з павагай ставіцца да пахавання сваіх нябожчыкаў і распрацаваў для гэтага спецыяльны рытуал.

У надмагільных помніках прысутнічае яскрава адлюстраванае пачуццё часу, таму месцы пахаванняў і, асабліва, могілкі даюць больш канкрэтную інфармацыю аб той ці іншай гістарычнай эпосе, чым музеі, нават, калі яны прысвечаны толькі мемарыяльнай тэматыцы. Могілкі, якія разам з паркамі ўваходзяць у сістэму "зялёнай" прасторы населенага пункта, адыгрываюць таксама экалагічную функцыю з пункту погляду аховы канкрэтных біяцэнозаў ці асобных відаў флоры і фауны.

На жаль, у нашай краіне могілкі звычайна не ўваходзяць у гісторычна-культурную сістэму населенага пункта; асабліва калі гэта вёска ці мястэчка. Такім чынам, гэтая галіна гістарычна-культурнай спадчыны Беларусі з'яўляецца найменш даследаванай.

Тысячагадовая гісторыя Беларусі мае паслядоўную эвалюцыю пахавальных традыцый, на фармаванне якіх уплывалі канфесійныя, нацыянальныя і палітычныя фактары.

Да канца ХУІІІ ст. на Беларусі склалася ўстойлівая сістэма пахавальных традыцый прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў (беларусаў, яўрэяў і татараў) і розных канфесій (праваслаўныя, каталіцкія, уніяцкія, пратэстанцкія, мусульманскія і іудзейскія могілкі).

Сітуацыя пачала мяняцца да горшага ў XIX ст., калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі.

Фактычна забароненымі ў гэты час былі на Беларусі магілы паўстанцаў 1830 -1831 гг. і асабліва 1863-1864 гадоў. Наадварот, месцамі ўсеагульнай славы сталі месцы пахаванняў рускіх салдат часоў Айчыннай вайны 1812 г. асаблівага размаху дасягнула акцыя патрыятычнага ўшанавання гэтых могілак у 1912 годзе (100-гадовы юбілей вайны 1812 года). Тады шмат у якіх гарадах Беларусі былі ўстаноўлены мемарыяльныя помнікі і абеліскі.

Яшчэ адным фактарам панславізму на Беларусі сталі вайсковыя могілкі ў Менску, дзе пахаваны ўдзельнікі руска-турэцкай вайны 1878 г., у выніку якой Балгарыя атрымала незалежнасць. У цэнтры могілак збудавалі мемарыяльны праваслаўны храм у гонар Аляксандра Неўскага.

Яшчэ больш пагоршылася сітуацыя пасля прыходу да ўлады бальшавікоў, якія свядома адмаўлялі шматвяковыя традыцыі канфесійных пахавальных абрадаў і сілай навязвалі свае правілы і звычкі. У часы грамадзянскай вайны бальшавікі знішчылі шмат мірнага насельніцтва ў выніку класавых і канфесійных чыстак. Былі расстраляны сотні святароў і манахаў, прадстаўнікоў дваранства, буржуазіі і шляхты. Бальшавікі змагаліся не толькі з жывымі, але і з нябожчыкамі. Былі апаганены мошчы святых, разрабаваны сотні багатых пахаванняў дваран, гандляроў, фабрыкантаў, былых уладальнікаў маёнткаў і замкаў.

Пахавальны абрад рэзка змяніўся. Адпяванне нябожчыкаў у храмах было практычна забаронена. Замест крыжа на надмагільных помніках з'явілася пяціканцовая чырвоная зорка.

У 30-40-х гг. XX ст. на тэрыторыі БССР узнікаюць таемныя масавыя захаванні ахвяраў сталінскага рэжыму. Найбольш вядомымі з іх з'яўляюцца Курапаты пад Менскам, дзе ляжаць у вялікіх брацкіх магілах каля 200 тысяч чалавек. Месцы гэтых пахаванняў органы НКУС трымалі ў вялікім сакрэце.

Таксама былі пад вялікай забаронай магілы жаўнераў Арміі Краёвай, што змагаліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, як з фашыстамі, так і з бальшавікамі.

У 60-70-х гг. вандалы пачалі знішчаць і мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзіліся пахаванні, а іх тэрыторыя апынулася пасярод жылых кварталаў вялікіх беларускіх гарадоў. У гэты час у Менску былі знішчаны канчаткова яўрэйскія, татарскія, лютаранскія, праваслаўныя "Старажоўскія" могілкі і старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак". Дзеці гулялі з чарапамі і косткамі нябожчыкаў, а разбітымі надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы.

У часы хрушчоўскага змагання з рэлігіяй на Палессі і ў Заходняй Беларусі знішчылі практычна ўсе прыдарожныя крыжы і капліцы, устаноўленыя мясцовымі сялянамі. Былі разбураны альбо пашкоджаны надмагіллі мясцовых святароў і шляхты, пахаваных побач з касцёламі альбо цэрквамі, будынкі якіх былі ўжо каторы раз адабраныя ў вернікаў і ператвораныя ў спортзалы, клубы ці зернясховішчы. На дзейных могілках вандалы-бязбожнікі масава ламалі крыжы- сімвалы хрысціянства.

У 80-я гады па чэшскаму праекту ў Менску быў пабудаваны крматор, у якім з трох печак працавалі дзве, што ў суткі крамуюць 10 целаў нябожчыкаў. Побач з ім пабудаваныя нягеглыя калумбарыі, якія нагадваюць камерцыйныя кіёскі.

Рэлігійнай спецыфіцы сучасных беларускіх могілак уласцівыя наступныя рысы:

1. Перавага невялікіх па плошчы могілак са звычкай пахавання нябожчыкаў у драўляных трунах;
2. Схільнасць да размяшчэння пахаванняў сямейнымі ўчасткамі;
3. Наяўнасць культавых пабудоў (капліц і храмаў);
4. Падзел гістарычных могілак ХУІІІ – пачатку XX ст. па канфесійнай прыкмецы;
5. Вялікая колькасць брацкіх магіл ці вайсковых могілак, звязаных з ваеннымі дзеяннямі на тэрыторыі Беларусі ў ХУІІІ-XX стст.
6. Размяшчэнне могілак за межамі паселішчаў на пагорках, пераважна пясчаных, з негустымі пасадкамі кустоў і дрэў, альбо на адкрытых месцах паблізу гаёў ці лясоў.

Асобная гаворка можа ісці пра ахову мемарыяльных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Фармальна, у асноўным на паперы, ахове дзяржавы падлягаюць, як помнікі археалогіі – курганы і курганныя групы X-XIII стст., а таксама шматлікія пахаванні савецкіх салдат, афіцэраў і партызан. Таксама пастаўлены на ахову некалькі дзесяткаў магіл некаторых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і дзеячаў палітыкі і культуры. І гэта ўсё. На самой справе ў газетах ўвесь час ідзе інфармацыя аб шматлікіх масавых актах вандалізму на могілках вялікіх гарадоў і малых вёсак.

У БССР адсутнічалі заканадаўчыя акты, прысвечаныя пахавальнай справе і існавалі толькі розныя інструкцыі, загады і іншыя падзаконныя акты. Доўгі час дзейнічала інструкцыя "Парадак адкрыцця, утрымання, закрыцця і ліквідацыі могілак", зацверджаная загадам міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР ад 04.07.1990 г. № 91. Гэты дакумент быў узгоднены толькі з галоўным дзяржаўным санітарным урачом БССР. Органы рэспубліканскай аховы помнікаў тут ніякім чынам не прысутнічалі.

Нарэшце, пад ціскам грамадскасці Палата прадстаўнікоў у кастрычніку 2001 года прыняла "Закон аб пахаванні і пахавальнай справе", які праз паўгода пасля прыняцця ўступіў у дзеянне.

Упершыню пасля 1917 года ён даў магчымасць стварыць свае канфесійныя могілкі рэлігійным арганізацыям, а таксама мець сямейныя (родавыя) пахаванні і склепы.

Вельмі важна, што закон забараняе будаўніцтва любога тыпу на месцы былых пахаванняў, а таксама прадугледжвае ахову, да прыняцця на дзяржаўны ўлік выяўленых раней невядомых пахаванняў абаронцаў Айчыны, ахвяр войнаў і палітычных рэпрэсій.

У артыкуле 20 выдзяляецца такі тып могілак, як гісторыка-мемарыяльныя.

На жаль, вышэйназванае вызначэнне ў законе больш ніяк не тлумачыцца. Таму варта тэрмінова распрацаваць Міністэрству культуры Беларусі падрабязную інструкцыю з выдзяленнем асобных крытэрыяў для аб'яўлення асобных могілак, як гістарычна-мемарыяльных, што з'яўляюцца ўнікальнымі архітэктурна-археалагічнымі комплексамі.

Варта таксама зрабіць асобны заканадаўчы акт аб стварэнні ў Беларусі нацыянальнага Пантэона, дзе будуць праводзіцца пахаванні і перазахаванні выдатных людзей нашай Бацькаўшчыны.

*Алег Трусаў, дацэнт, кандыдат гіст. навук, Старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны*



Археалагічныя раскопкі ў раёне менскай вуліцы Няміга вялі гэтым летам супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гістарычны цэнтр Менска археолагі даследвалі перад пачаткам будаўніцтва новага паркінга. Самая каштоўная знаходка: санны полаз XVII стагоддзя. Гэта сапраўдны шацунак для навукоўцаў: дрэва і шкура дрэнна захоўваюцца ў зямлі. Зараз ёсць магчымасць больш дакладна рэканструяваць адзін з відаў транспарту той эпохі. На Нямізе адкопаны фундаменты драўляных пабудоў пачатку XVIII стагоддзя, манеты Рэчы Паспалітай і ВКЛ, свінцовыя пломбы, керамічныя формачкі для адліўкі шакаладу і інш.

**На здымку:** археалагічныя раскопкі ў раёне вуліцы Няміга.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 10. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2137.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.